БЕЛАРУСКАЕ СТУДЕНЦКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ

Вучыся, працуй і змагайся ...

# СТУДЕНЦКІЯ ВЕСТКІ

Зьмест:


Кліч студента . . . . . . . . . . . 2 стр.
10 прыказаньняў беларускага студэнта 3 "
Вышэйшыя школы . . . . . . . . . 4 "
Беларускі Камітэт у Мюнхэні . . . . 6 "
Першы сход беларускіх студэнтаў . . 7 "
Першыя крокі . . . . . . . . . . 7 "


-------

№ 1. Мюнхэн, 26. лістапада 1945 г.

# К Л І Ч   С Т У Д Э Н Т А .

Адчыняюцца дзьверы вышэйшых навучальных установаў. Пасьля так доўгай перэрвы ў школьным жыцьці, якою была вайна, для чужынцаў у Нямеччыне зноў ёсьць магчымасьць зачаць або прадоўжваць студыі.

Адарваўшыся ад фабрычных станкоў, вышаўшы із турмаў і канцентрацыйных абозаў, ужо крыху адпачыўшы, ідзе моладзь усіх народаў у ўнівэрсытэты, акадэміі, кансерваторыі, каб паглыбіць здабытыя і атрымаць далейшыя веды з розных галінаў жыцьця. За другімі не адстаюць і беларусы. Зьяжджаюцца яны з усіх куткоў заходніх акупацыйных зонаў Нямеччыны: з Вюрцбурга і Рэгенсбурга, з-пад Франкфурту і Касселю, з-пад Ульму і Равенсбургу. Перамагаючы розныя цяжкасьці, кідаючы нават і лепшыя матар'яльныя ўмовы, цягнуцца да крыніцаў навукі.

Беларусы! Магчымасьці студыяў для нас да гэтага часу былі мінімальныя. Нашыя "апекуны" пазачынялі ўсе беларускія школы - кузьні дэмакратычна - вызвольнага руху. У іх школах ня было мейсца для беларуса. Пазбавіўшы нас навукі - гэтай духовай стравы чалавека, яны хацелі пазбавіць нас кіруючага пласту, хацелі зрабіць з нас народ цёмных нявольнікаў, каб потым зусім зьнішчыць!

Сяньня, калі мы так добра ацанілі значэньне школы і калі ёсьць дана нам магчымасьць нароўні з другімі вольна вучыцца, нам ня можна не ня выкарыстаць. Мы ня маем права ані хвіліны сядзець бязчынна.

Усе нашыя сілы ёсьць расьцярушаныя па усёй Нямеччыне, у розных абозах і згрупаваньнях. Мы ўсе мусім аб'яднацца, бо толькі у грамадзе - сіла.

Нам трэба скаардынаваць нашую працу, узгодніць думкі і намаганьні,
Супольнымі сіламі мы павінны пашыраць нашую справу, папулярызаваць яе, паказаць людзям усяго сьвету, хто мы такія і да чаго імкнёмся; вывесьці нашую справу на міжнародную арэну.

Сяньняшні цьвёрды час вымагае ад нас быць таксама цьвёрдымі ў барацьбе за нашыя ідэалы. Стойка і непахісна мы павінны ісьці цяжкім шляхам да асягненьня нашай яснай мэты, дзеля якой нашыя браты ішлі на выгнаньне ў чужыя краі, падалі ад куляў акупантаў, аддавалі сваё маладое жыцьцё ў нямецкіх турмах і канцэнтрацыйных табарах.

Нашая Бацькаўшчына патрабуе людзей з чыстым, як крышталь ідэалам душы, пазнаўшых жыцьцё і сьвет. Людзей, якія сьвятую праўду беларускага народу падалі-б да ведама ўсяму сьвету. Людзей, якія ў імя сапраўднай дэмакрацыі шануюць ня толькі ідэалы свайго народу, але і ідэалы другіх народаў.

Нашая Бацькаўшчына патрабуе людзей узброеных аружжам навукі, якія памогуць ёй, вольнай і сапраўды дэмакратычнай, узьняцца з грузаў і залячыць раны, нанесеныя вайною. Такіх- жа людзей выхоўвае школа.

Дык наперад, беларуская моладзь! Чуй кліч часу: гуртуйся ў беларускія студэнцкія рады. Здабывай асьвету!

А.А.

ДЗЕСЯЦЬ ПРЫКАЗАНЬНЯЎ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНТА.

1. Памятай, што найвышэйшым тваім дабром ёсьць дабро Беларускага Народу.
2. Знай, што ты студ'юеш для таго, каб здабытымі ведамі магчы ляпей служыць тваёй Бацькаўшчыне.
3. Выкарыстоўвай кожную нагоду для пашырэньня і паглыбленьня тваіх ведаў. Пагарджай павярхоўнасьцю.
4. Вывучай старанна ў чужынцаў усё, што добрае і карыснае і павярні яго на карысьць твайго краю.
5. Будзь сумленным і здысцыплінаваным сябрам студэнцкай грамады.
6. Дбай аб свае ідэалы і шануй чужыя, бо гэтым і твае будуць ушанованы.
7. Не забудзь, што ты зьяўляешся сябрам беларускага грамадзтва і маеш перад ім абавязкі.
8. Трымай высока сьцяг і сьцеражы годна імя беларускага студэнта.
9. Выконвай прыкладна усё, што належыць да цябе, бо ты ёсьць маладняк беларускай інтэлігенцыі і цераз гэта вочы мільёнаў глядзяць на цябе.
10. Кожным словам і ўчынкам сваім пашырай славу Беларусі між чужынцамі.

-----------

# ВЫШЕЙШЫЯ ШКОЛЫ.

Унiверсытэт УНРРА ў Мюнхенi.
Пры УНРРА створаны стараньнямi Мiжн.Студ. Аб'яднаньня ўнiверсытэт; запiсы праводзяцца да 15-га сьнежня 1945 г.

Студэнты зьяўляюцца стыпендыянтамi УНРРА-ы i будуць забясьпечаны памешканьнем i харчаваньнем.

Асобам, якiя ня маюць сярэдняй асьветы, або страцiлi дакуманты аб ёй, дадзена магчымасьць наведваць курсы прысьпешанай матуры i злажыць у часе ад 12.12.45 да 21.12.45 екзамiн сьпеласьцi. Курсы даюць права паступленьня на ўнiверсытэт.

Унiверсытэт УНРРА адчыняе наступныя факультэты:

| Факультэт: | Пададдзел: |
|---|---|
| I. Машынавы ф. | А. Машынабудаўнiцтва<br>1. агульнае машынабудаўнiцтва<br>2. цеплавая тэхнiка<br>3. будова самалётаў<br>Б. Електратэхнiка |
| II. Будаўнiцтва | А. Будаўляная iнжынерыя<br>1. канструкцыйная iнжынерыя<br>2. воднае будаўнiцтва<br>3. шляхi зносiн<br>4. будова сялiбаў<br>Б. Архiтэктура<br>1. архiтэктурная iнжынерыя<br>2. мастацкая архiтэктура<br>В. [illegible]ярнiцтва |
| III. Сельска гасп., лясьнiцтва i ветэрынарыя | А. сельская гаспадарка<br>Б. лясьнiцтва<br>В. ветэрынарыя |
| IУ. Прыродазнаўства i матэматыка | А. Матэматыка i механiка<br>Б. Фiзыка<br>В. Хемiя<br>Г. Бiелёгiя<br>Д. Геолёгiя i мiнералёгiя |
| У. Еканамiчныя навукi | А. Народная еканомiя<br>Б. Еканомiя прадпрыемства |
| УI. Права | А. Права |
| УII. Медыцына | /толькi першыя чатыры семестры/ |
| УIII. Фiлёзофiя | А. Чыстая фiлёзофiя<br>Б. Гiсторыя<br>В. Фiлёлёгiя |

Апрача таго пры УНРРА-ы адчыняецца кансэрваторыя. Адкрываецца таксама акадэмiя мастацтваў з аддзеламi:

а/ малярства
б/ графiкi
в/ скульптуры.

Запісы і ўступныя іспыты трываюць да 10.сьнежня 1945 г. Сярэдняя асьвета пры гэтым не абавязковая. Выкладовай мовай на ўнівэрсытэце УНРРА будзе мова нямецкая.

## УКРАІНСКІЯ ВЫШЭЙШЫЯ ШКОЛЫ.

Пачала ўжо сваю дзейнасьць Вышэйшая Еканамічная Школа. Пры В.У.У. адчынены Вэтэрынарна-Зоотэхнічны пададдзел.
Запісы прыймаюцца далей.
Прыймаюцца запісы на Тэхнічныя Факультэты Украінскага Тэхнічна-Гаспадарчага Інстытуту:

I. Прамысловы з пададдзеламі:

1. горны
2. мэталюргічны
3. машынабудаўнічы
4. караблёбудаўнічы
5. цывільнага будаўніцтва
6. перапрацоўкі сель.гасп.прадуктаў
7. хемічнай прамысловасьці.

II. Транспартны з пададдзеламі:

1. Чыгуначных шляхоў
2. машынавы /праверка і рамонт паравозаў і вагонаў/
3. електратэхнічны
4. експлёатацыйны
5. шасовых дарог
6. водных шляхоў і партоў.

Праграма УТГІ прадугледжвае 10 сэмэстраў навучаньня. Запісы трываюць да 30.лістапада 1945 г. Выклады ў вышэй выменены навучальнях адбываюцца на ўкраїнскай мове.

## ВЫШЭЙШЫЯ НЯМЕЦКІЯ ШКОЛЫ

Мюнхэн. Унівэрсытэт і палітэхніка атрымалі дазвол ад Амэрыканскіх Вайсковых Уладу на адкрыцьцё ўсіх факультэтаў. Зараз праводзяцца запісы. Унівэрсытэт адкрывае усе свае факультэты ўключна з лесавым факультэтам і малярскай студыяй.

Пры Палітэхніцы, апрача машынабудаўлянага, електрычнага, будаўляна-мярнічага і хемічнага існуюць: агранамічны, гандлёвы і браварны факультэты. У нямецкіх унівэрсытэтах горада Мюнхэну ёсьць 10 % агульных мейсц зарэзэрваваных для іншa-краёвай моладзі.

Грац. У Грацу ёсьць адчынены: унівэрсытэт з мэдыцынскім, фармацэўтычным, філёзафічным і тэолёгічным факультэтамі.
Палітэхніка з аддзеламі: машынавым, електрычным і архітэктурным.
Горная Акадэмія /у Леобэні, каля Грацу/.

Ерлянген. Пасьля заканьчэньня запісаў на медыцыну, папыйнаецца прыём на права і філёзофію.

Вюрцбург. Унівэрсытэт атрымаў дазвол на адкрыцьцё.

БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ у МЮНХЕНІ.

Ня знаю, ці знойдзецца такі беларус, які пасьля агульных неспадзевак і расчараваньняў горада Мюнхену, не завітаў пад гасьцінную стреху беларускага Камітэту!

І напэўна найлепшым успамінам з Мюнхену будзе той начлег, ці некалькі тых гадзін, праведзеных у асяродзьдзі блізкіх і мілых людзей. Асабліва мы, студэнты - піянеры, якія першыя кінуліся да навукі, ня гледзячы на рознаякія часовыя перашкоды і цяжкасьці, добра адчулі гэтую апеку з боку Камітэту і зразумелі неабходнасьць нашае арганізацыі. Нам стала аж вельмі ясна, што без нацыянальнага згуртаваньня, без свае арганізацыі, кожная найменшая проба самастойнага кроку напатыкае на вялікія перашкоды і неацэненыя цяжкасьці.

І мы шчыра ўдзячны Старшыні Камітэту, які з першага дня нашага прыбыцьця і спатканьня з ім, прыклаў чулую руку і моцную волю да заспакаеньня нашых патрэбаў. З праўдзівай гасьціннасьцю і бацькоўскай чуласьцю, на якую здольныя толькі істотныя сыны Беларусі, спаткаў ён нас, маладую і недасьведчаную яшчэ інтэлігенцыю.

З юнацкім парывам і вечнай сьвежасьцю і ахвотай, не зважаючы на труднасьці і няўвязкі, сп.Старшыня заўсёды дакончвае тое, што толькі ляжыць у яго кампэтэнцыі. І ня толькі бачныя гэтыя стараньні ў адносінах да нас - студэнтаў. Беларускі Камітэт у Мюнхене зьяўляецца праўдзівым і адзіным асяродзьдзем помачы, парады і пацехі кожнага беларуса, які прыпадкова, ці целёва, апынуўся у сьценах камітэцкага будынку. На сяньняшні дзень Камітэт у Мюнхені ёсьць яшчэ зусім малым. Нас беларускаў тут вельмі мала. Але тая цёплая лучнасьць, якая утварылася паміж Камітэтам а беларускаю грамадзкасьцю, а ў апошнім часе і паміж студэнтамі, узмоцніць яго і дасьць магчымасьць вырасьці яму на моцны згуртаваны нацыянальны цэнтр беларускай інтэлігенцыі і грамадзтва.

Жадаю ўсім іншым, шчырым беларусам, параскіданым па розных кутках Нямеччыны, браць прыклад, прыходзіць за парадай і тварыць свае, хоць малыя, нацыянальныя згуртаваньні, каб гэтым дапамагаць адзін другому і папулярызаваць добрае імя беларуса сярод іншых народаў.

Б.С.

## ПЕРШЫ СХОД БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ.

Ў нядзелю 18.11.1945 г. у памешканьні Лігі Беларускіх Палітычных Вязьняў Нямецкіх Канцэнтрацыйных Табараў і Турмаў, папаўдні адбыўся сход студэнцкага актыву. Пасьля ўступнага слова Старшыні Лігі, які падкрэсьліў вялікую кіраўнічую ролю беларускай інтэлігенцыі ў нашым грамадзкім жыцьці і неабходнасьць яе арганізацыі, для палягчэньня студыяў і папулярызаваньня беларускае справы ў абліччы іншых нацыяў, студэнты прыступілі да нарадаў над стварэньнем студэнцкай арганізацыі, над устанаўленьнем часовага статуту і выбарам Ураду.
Па некалькіх гадзінах напружанай працы, па ўсебаковым разглядзе ўсіх пытаньняў студэнцкага жыцьця, была заснаваная студэнцкая арганізацыя пад назовам: "Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне" /у скароце Б.С.З./.

Адначасова быў устаноўлены Статут Таварыства і створаны часовы Ўрад Б.С.З.
На гэтым першае студэнцкае пасяджаньне было скончана. Студэнты з новай верай і сілай раз'ехаліся ў розныя напрамкі Мюнхэну ведаючы, што ёсьць цяпер штось, што ідэйна злучае ўсіх нас у вадну сям'ю.
Беларускія абсальвэнты сярэдніх школ, сябры студэнты, пачаўшыя ўжо студыі раней, а не маючыя магчымасьці далей іх прадаўжаць, страціўшыя школьныя дакуманты - усе прыбывайце да нас. Тут ад Беларускага Камітэту і ад Ураду Беларускага Згуртаваньня атрымаеце заўсёды дапамогу пры афармленьні ў унівэрсытэт, будзеце забясьпечаны харчаваньнем і памешканьнем.
Адрас Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня - Мюнхэн, Рамэрсдорф, Фюгрыхштуле 53. Трамвай 1 або 21 з Галоўнай Станцыі да Орлеанштрассе. З Орлеанштрассе трамвай 4 у кірунку Рамэрсдорф, 2-ая астаноўка.

Б.С.

## ПЕРШЫЯ КРОКІ.

Пустыя вокны, дый пабітыя калюмны станцыі. Ахоплівае цябе мімаволі жах перад няведамым новым жыцьцём у зруйнаваным горадзе. Дзе ні глянь - руіны. Стамлённае вока дарэмна шукае адпачынку на чымсь, што ня мела-б сьлядоў, так нядаўна панучага тут, зьнішчэньня і сьмерці. Натоўп! Гэты адзін астаўся заўсёды роўны ў штодзённым сваім жыцьці. Ён запаўняе станцыю і трамваі, плыве вуліцамі ў вядомым толькі яму напрамку. Вось хваля, карыстаючыся з парадзеўшай калюмны самаходаў, панясла цябе з адной стараны вуліцы на другую. І ты баішся патануць у гэтым рухаючымся моры. У сэрца закрадаецца няпэўнасьць і страх ад адзіноцтва і перад нязнаным. Запытаўшы пра дарогу, трапляеш у "Дойчэс Музэўм", дзе памяшчаецца УНРРА. Гэта ёсьць яе найбольшы і найрухлівшы цэнтр у Баварыі.
Першым тваім уражаньнем ёсьць быццам-бы ты знайшоўся на нейкім інтэрнацыянальным кірмашы.

Сапраўды са ўсіх старон чуюцца ўсе табе знаньня і нязнаньня мовы, ты бачыш рысы тыпаў розных рас, табе кідаюцца ў вочы колеры адзнак усіх нацыяў, ступені і адзначэньні розных родаў войск. Усё гэта, без малейшага знаку ўзаемнага антаганізму, кудысьці адбывае падарожжа, прыяжджае і ад'яжджае, мае свае мэты і заданьні.
І вось тут, у пераходным пункце, у мурох быўшага музея, пад апекаю УНРРА-ы, знаходзіць прыжджаючы ежу, адпачынак і параду.
Толькі беларусу трудней знайсьці свайго чалавека. Трудней - але магчыма.
Па адпачынку ідзём шукаць знаёмых і залагоджваць справы. Калі ты студэнт, ідзеш у ўнівэрсытэцкую канцылярыю. Там знайходзіш беларусаў, ад якіх даведаешся дакладна аб вышэйшай школе і дастанеш указаньні, што і як маеш рабіць. Можаш быць пэўным апекі Беларускага Камітэту і Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня. У невялікай сям'і беларусаў у Мюнхэні, адразу адчуеш спакой, як фізычны так і маральны. Ты адчуваеш сілу і ахвоту працаваць для дабра беларускае справы, разам з тымі, якія з адкрытымі рукамі чакаюць на моладзь, каб пашырыць і узмоцніць рады культурных барацьбітоў на нашай нявырабленай ніве.

А.К.